

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***




# НАША СЛОВА.pdf

**Трэці год выдання** **№ 17 (121) 24 красавіка 2024 г.**


# "Адпачынак - 2024"

На чарговай 26-й Міжнароднай выставе-кірмашы турыстычных паслуг "Адпачынак-2024", якая размясцілася ў культурна-спартыўным комплексе "Менск-Арэна" прынялі ўдзел арганізацыі з Лідскага рэгіёна, якія рэалізоўваць прадукты і паслугі на беларускім рынку ў сферы турызму і адпачынку.




На пляцоўцы разам з іншымі прадстаўнікамі з 118 раёнаў нашай краіны прынялі ўдзел і супрацоўнікі Лідскага гістарычна-мастацкага музея і яго аб'ектаў Лідскага замка і Дома Валянціна Таўлая. На пляцоўцы павільёна супрацоўнікі музея прадставілі анімацыйную праграму "Прысвячэнне ў рыцары". Прапанавалі зрабіць фота ў








рыцарскіх даспехах, прыехаць на Лідчыну і наведаць парліну нашага горада Лідскі замак. Былі наладжаны сувязі з іншымі турыстычнымі арганізацыямі, якія знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі і за яе межамі (Масква, Санкт-Пецярбург і інш.)


*(Заканчэнне на ст. 2.)*





# "Адпачынак - 2024"

(Заканчэнне. Пачатак на ст. 1.)

Лідскі раён у другі дзень выставы праводзіў дэгустацыі, віктарыны, анімацыі і розыгрышы.

Лідзяне прадставілі тут культурныя і творчыя разыначкі рэгіёна, здраўніцы (ЦРБ, "Амедыс" і "Вясёлка"), аб'екты экатурызму (Парк "Гарні"), а таксама кулінарныя фішкі - мёд, квас, індычку.






Педагогі Лідскага музкаледжа лашчылі слых сярэднявечнымі мелодыямі, а супрацоўнікі Лідскага гістарычна-мастацкага музея падрыхтавалі сапраўднае тэатралізаванае прадстаўленне. Не абышлося без дэгустацыі "Лідскага квасу", а на дэсерт - натуральнага мёду ад Лідскага лясгаса.







Галоўнае адрозненне мерапрыемства гэтага года - тое, што удалося сабраць пад дахам "Менск-Арэны" прадстаўнікоў усіх рэгіёнаў Беларусі. 128 гарадоў і раёнаў нашай краіны прадставілі свой турыстычны патэнцыял. Для Лідскага раёна - гэта ўнікальная магчымасць прэзентаваць свой край і дзейнасць.




Уражвае і плошча, на якой праводзілася мерапрыемства - 12 тыс. кв.м. Упершыню выстава набыла такія значныя маштабы.

*Паводле СМІ.*





# XI Лідскія чытанні

## "80 мірных гадоў. Лідчына ад вызвалення да сённяшняга дня"

***18 красавіка 2024 года ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы прайшла навукова-практычная канферэнцыя "XI Лідскія чытанні" на тэму "80 мірных гадоў. Лідчына ад вызвалення да сённяшняга дня".***

У кожнага горада, як і ў кожнага чалавека, свой лёс, свая біяграфія, свая гісторыя.

Ліда - горад са шматвяковай гісторыяй. Разам з помнікамі даўніны ў пасляваенны час аднавілася жыццё жыхароў і эканамічны стан горада. Сучаснае аблічча горад набыў у другой палове XX ст., былі пабудаваны новыя заводы: аўтарамонтны (цяпер ААТ "Лідааграпраммаш"), лакафарбавы, аптычны і іншыя прамысловыя прадпрыемствы, новыя жылыя масівы з адміністрацыйнымі, гандлёвымі і жылымі будынкамі, добраўпарадкаваныя вуліцы, скверы, устаноўлены помнікі.

Дзяржаўная ўстанова культуры
"Лідская раённая бібліятэка
імя Янкі Купалы"

18 красавіка 2024 года 11:00

12+

*Паважаныя жыхары горада Ліды і Лідскага раёна!*

Запрашаем Вас прыняць удзел у навукова-практычнай канферэнцыі

«XI ЛІДСКІЯ ЧЫТАННІ»

«80 МІРНЫХ ГАДОЎ. ЛІДЧЫНА АД ВЫЗВАЛЕННЯ ДА СЁННЯШНЯГА ДНЯ »

*Месца правядзення:*
Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы
*(вул. Ленінская, д.10, канферэнц-зала, 3 паверх)*

Навукова-практычная канферэнцыя "XI Лідскія чытанні: 80 мірных гадоў. Лідчына ад вызвалення да сённяшняга дня" прадэманстравала станаўленне розных сфер жыцця жыхароў Ліды і раёна ў пасляваенны перыяд і па сённяшні дзень. Стараннямі многіх пакаленняў Ліда стала прыгожым і самабытным горадам. Яна ўяўляе цікавасць для навукоўцаў, эканамістаў, палітыкаў як гістарычным мінулым, так і багатай сучаснасцю.

З прывітальным словам выступіла Вайцюкевіч Наталля Міхайлаўна, намеснік загадчыка аддзела культуры Лідскага райвыканкама і намеснік дырэктара Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы Быстрыцкая Алена Адамаўна. На канферэнцыю былі запрошаны прадстаўнікі ўстаноў і прадпрыемстваў Лідчыны.





Удзельнікі канферэнцыі - педагогі і навучэнцы дзяржаўных устаноў адукацыі г. Ліды, прадстаўнікі мясцовых прадпрыемстваў, краязнаўцы, навуковыя супрацоўнікі ДУ "Лідскі гісторыка-мастацкі музей" і "Занальны дзяржаўны архіў у г. Лідзе", супрацоўнікі і чытачы публічных бібліятэк. Дакладчыкі асвятлілі розныя бакі жыццядзейнасці Гарадзеншчыны і Лідчыны за апошнія 80 гадоў: Свірко Святлана Генадзьеўна, дырэктар установы "Занальны дзяржаўны архіў у г. Лідзе" прадэманстравала дакументальны фільм "Да 80-годдзя вызвалення г. Гродна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў", які быў

падрыхтаваны Беларускім дзяржаўным архівам кінафотафонадакументаў.




Салаўёў Расціслаў Юр'евіч, дабрачынны Лідскай акругі Лідскай епархіі Беларускай Праваслаўнай Царквы Маскоўскага Патрыярхата, настаяцель храма Святога Вялікапакутніка Георгія Перамаганосца г. Ліды, кандыдат багаслоўя, протаіерэй падрабязна раскрыў тэму свайго даклада "Праваслаўныя прыходы Лідскага дабрачыння ў перыяд за 1945-1991 гады". Па заканчэнні выступу Расціслаў Юр'евіч падараваў Лідскай раённай бібліятэцы імя Я. Купалы выданне "Сия есть победа победившая мир, вера наша: Православие на Лидчине в XIII - начале XXI века" са словамі дабраславення і шчырымі пажаданнямі.






Аб жыццёвым досведзе, вайсковай службе і сувязі з Лідчынай расказаў Панчанка Іван Сямёнавіч, старшыня камісіі па сацыяльна-бытавых пытаннях і медыцынскім абслугоўванні ветэранаў Лідскага раённага Савета ветэранаў.



Мікалайчык Любоў Яўгенаўна, бібліятэкар в/ч 19764, у сваім дакладзе "Лідскі аэрадром: ад вайны да нашых дзён" расказала прысутным гісторыю станаўлення і развіцця мясцовага аэрадрома за апошнія некалькі дзесяцігоддзяў. Яе калега, Чапля Данута Францаўна, бібліятэкар в\ч 1234, сканцэнтравала свой выступ "На пярэднім рубяжы" на гістарычных асаблівасцях і сучасным стане пагранічных войск на Лідчыне.










Якубчык Канстанцін Іосіфавіч, слесар па рамонце рухомых саставаў зборачнага цэха УП "Баранавіцкае аддзяленне Беларускай чыгункі" Лакаматыўнага дэпо Ліда, у сваім дакладзе "Крок у бяссмерце: героі Лідскага падполля" разам з прысутнымі перанёсся ў ваенныя і пасляваенныя часы. Выступ дакладчыка суправаджаўся відэафільмам.




Для гасцей навукова-практычнай канферэнцыі было прадэманстравана відэа "Я з вогненай вёскі Леснікі" Някрасава Віктара Аляксандравіча, кіроўцы пагрузчыка УП "Баранавіцкае аддзяленне Беларускай чыгункі" Лакаматыўнага дэпо Ліда. Віктар Аляксандравіч удзельнічаў са сваім прэзентацыйным фільмам у конкурсе відэаролікаў "Я з вогненай вёскі…", прысвечаным 80-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, які быў арганізаваны па ініцыятыве Берасцейскай транспартнай пракуратуры, дзе па выніках анлайн-галасавання ўвайшоў у тройку лідараў і нават перамог у адной з намінацый.

XI Лідскія чытанні сабралі ў сценах Лідскай раённай бібліятэкі прадстаўнікоў розных сфер дзейнасці. За "эканамічную" складавую навукова-практычнай канферэнцыі адказвалі супрацоўнікі вядучых прадпрыемстваў г. Ліды.

Пекар Аляксандр Іванавіч, спецыяліст аддзела маркетынгу ААТ "Лідскія харчовыя канцэнтраты", яскрава і эмацыйна выступіў з дакладам "Гісторыя ЛІДКАН - гісторыя поспеху", дзе не толькі расказаў пра гісторыю і сучасны стан прадпрыемства, а і прадэманстраваў рарытэтную прадукцыю, выпуск якой ладзіўся ў пасляваенныя гады.




""Лідскае піва": з гісторыі развіцця прадпрыемства ў пасляваенны перыяд" - пад такой назвай прагучаў выступ Чарняк Веранікі Яўгенаўны (экскурсавод ААТ "Лідскае піва"). Даклад суправаджаўся цікавымі гістарычнымі звесткамі, фотаздымкамі, фактамі. Новай стала для аўдыторыі гісторыя аб тым, што ў ваенны час будынак завода быў адзіным, які не крануў вораг, у той час, калі навокал увесь горад быў у руінах.



Не менш цікавымі і пазнавальнымі сталі даклад "Лідскаму музею - 65 гадоў" намесніка дырэктара па навукова-даследчай дзейнасці ДУ "Лідскі гісторыка-мастацкі музей" Хацяновіч Наталлі Аляксандраўны і выступ "Лідскі каледж: ад вытокаў - да сучаснасці" Казлоўскай Юліі Ігараўны, студэнткі Лідскага каледжа





Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, у якім ішла гаворка пра гісторыю навучальнай установы і яе выпускнікоў, якія праславілі Лідчыну ў розных галінах.

Суднік Станіслаў Вацлававіч (рэдактар часопіса "Лідскі Летапісец", краязнавец) таксама звярнуўся да гісторыі Лідскага краю ў сваім выступленні "Адміністрацыйнае дзяленне Лідчыны пасля 1944 года", а Анашкевіч Наталля Мікалаеўна (выкладчык рускай мовы і літаратуры ДУА "Сярэдняя школа № 11 г. Ліды", кіраўнік метадычнага аб'яднання па духоўна-маральным выхаванні) прысвяціла свой даклад краязнаўцу, грамадскаму дзеячу Лідчыны Віктару Іванавічу Кудлу.







Супрацоўнікі ДУК "Лідская раённая бібліятэка імя Я. Купалы" (бібліятэкар Чайко Тарэса Валяр'янаўна і галоўны бібліёграф Курбыка Галіна Раманаўна) сканцэнтравалі ўвагу ўдзельнікаў навукова-практычнай канферэнцыі на гісторыі бібліятэк і правялі агляд лепшых выданняў пра г. Ліду другой паловы XX - пач. XXI стст.



Да ўвагі ўдзельнікаў і гасцей навукова-практычнай канферэнцыі была падрыхтавана кніжная выстава "Лідчына ўчора, сёння і заўтра". Па выніках канферэнцыі супрацоўнікамі Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы будзе выдадзены друкаваны зборнік дакладаў "XI Лідскія чытанні. 80 мірных гадоў. Лідчына ад вызвалення да сённяшняга дня". Папаўненне краязнаўчай скарбонкі стане здабыткам спецыялістаў-гісторыкаў і многіх чытачоў розных пакаленняў.





***Кацярына Сандакова,***
*бібліятэкар аддзела бібліятэчнага маркетынгу ДУК "Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы".*

## "Захаваем нашу гістарычную Радзіму" -

пад такім дэвізам прайшоў Дзень Сусветнай спадчыны на Лідчыне і ўсёй Гарадзеншчыне 18 красавіка. Сёлета ён адзначаўся ў 40-вы раз. Міжнародны дзень помнікаў і гістарычных месцаў, які таксама завуць Днём Сусветнай спадчыны быў напоўнены самымі рознымі мерапрыемствамі па ўсёй Беларусі.

***Гісторыка-культурная спадчына Гродзенскай вобласці ў лічбах***

**Усяго 749 гісторыка-культурных каштоўнасцей (1565 аб'ектаў), у тым ліку:**

**- 705 матэрыяльных нерухомых** гісторыка-культурных каштоўнасцей (1460 аб'ектаў), з іх:
- 2 помніка горадабудаўніцтва;
- 343 помніка архітэктуры;
- 256 помнікаў археалогіі;
- 99 помнікаў гісторыі;
- 5 помнікаў мастацтва.

**- 21 матэрыяльная рухомая** гісторыка-культурная каштоўнасць;
**- 23 нематэрыяльныя** гісторыка-культурныя каштоўнасці.

***Новае выданне***

# Слонімшчына ў беларускай фалерыстыцы

Лідскае выдавецтва "Пружмень" выпусціла кнігу Сяргея Чыгрына "Слонімшчына ў люстэрку фалерыстыкі". Мэта выдання - падсумаваць усё тое, што ёсць на сённяшні дзень пра Слонімшчыну у беларускай фалерыстыцы.

Нагадаем, што тэрмін "фалерыстыка" ўпершыню стаў ужывацца ў 1937 годзе чэхаславацкім калекцыянерам узнагарод Олдржыхам Пільцам. А ў былым Савецкім Саюзе пра фалерыстыку ўпершыню напісаў Раман Шэйн з Баку ў артыкуле "Фалерыстыка - сястра нумізматыкі", які быў апублікаваны ў часопісе "Дэкаратыўнае мастацтва СССР" у 1965 годзе.

Да першай групы фалерыстыкі адносяцца ордэны, медалі, значкі, жэтоны і форменная фурнітура (какарды), выраблены высокай якасці, якія маюць спецыяльныя ўпакоўкі, збераженне і сур'ёзную якасць тэхналагічнага сартавання.

Да другой групы фалерыстыкі адносяцца службовыя знакі, сувенірныя значкі, памятныя і сувенірныя жэтоны, форменная фурнітура (асноўная частка прадметаў) высокай і сярэдняй якасці выпуску.

На вялікі жаль, у Беларусі няма спецыяльнага выдання для фалерыстаў і, наогул, для калекцыянераў. Напачатку 1990-х гадоў калекцыянеры Алесь Сярожкін і Уладзімір Цярохін выдавалі ў Оршы газету "Беларускі калекцыянер". Выйшлі з друку 24 нумары, а потым выданне, з-за недахопу фінансаў, спыніла сваё існаванне.

Гісторыя Слоніма і яго ваколіцаў, помнікі, падзеі і людзі, прадпрыемствы і навучальныя ўстановы адлюстраваны ў беларускай фалерыстыцы. Таму кніга Сяргея Чыгрына - гэта першая спроба ажыццявіць каталагізацыю слонімскіх значкоў, медалёў і жэтонаў. Хаця ўсе звесткі пра слонімскую фалерыстыку сабраць у адзін каталог немагчыма. Але на сёння ў гэтым выданні - найбольш поўнае іх адлюстраванне і апісанне.




Добра было б, каб кожны раён меў падобнае выданне па даследаванні фалерыстыкі. Гэта таксама наша гісторыя і наш скарб, пра які мы павінны не забываць, ведаць і шанаваць.

***Міхась Акулка.***



№ 17 (121) 24 КРАСАВІКА 2024 г.
наша СЛОВА.pdf

# Міжнародны дзень помнікаў і гістарычных месцаў у Лідскім замку

18 красавіка першымі наведвальнікамі Лідскага замка аказаліся выхаванцы Дзяржаўнай установы адукацыі "Яслі-сад № 37 г. Ліды". Прыемнай неспадзеўкай для дзяцей стала бясплатная экскурсія па замку ў гонар святочнай даты - Міжнароднага дня помнікаў і гістарычных мясцін.





А ў 17.00 у Лідскім замку адбылася куратарская экскурсія "Скарбы археалогіі". З нагоды свята першаму наведвальніку замка ўваход быў бясплатны!

*ТК "Культура Лідчыны".*

# Шчасця і міру кожнаму дому!

Ваверскі Дом культуры ў рамках агляду канцэртных праграм "Лідскі падворак"прадставіў канцэртную праграму "Шчасця і міру кожнаму дому!"







*ТК "Культура Лідчыны".*





# Мажэйкаўскі падворак

Мажэйкаўскі Дом культуры сабраў гледачоў на канцэртнай праграме ў рамках раённага агляду "Лідскі падворак".







Зала адорвала гучнымі авацыямі артыстаў на сцэне. Канцэрт атрымаўся яркім, запамінальным і падарыў добры настрой жыхарам аграмястэчка Мажэйкава.

***ТК "Культура Лідчыны".***

*Навіны Германіі*

# У цягніках Германіі з'явяцца двухмесныя "купэ для пацалункаў"

**Яны дазволяць весці прыватныя і канфідэнцыйныя размовы ў абароненым становішчы, паведамляе нямецкая чыгунка.**



Цяпер у хуткасных міжгародніх цягніках Германіі (Intercity-Express, ICE) у асноўным або агульныя вагоны з сядзеннямі, або купэ на шэсць крэслаў.

Deutsche Bahn анансавала ўвядзенне ў ICE новых закрытых двухмесных купэ даўжынёй 2 метры і шырынёй 70 см. Аглядальнік Bild Буркхард Уленбройх называе іх "Купэ для пацалункаў" і "ICE-рэвалюцыяй", піша Bild.

- Зараз мы распрацоўваем новыя канцэпцыі купэ для ICE у суадносінах 1:1. Яны дазволяць весці прыватныя і канфідэнцыйныя размовы ў абароненым становішчы. Цяпер мы тэстуем гэтыя купэ на групах пасажыраў, - распавёў член праўлення Deutsche Bahn Міхаэль Петарсан.

У Deutsche Bahn пакуль не раскрываюць дакладных тэрмінаў увядзення новых прыватных купэ, а таксама іх афіцыйнай назвы. На сайце Bild запушчана анлайн-галасаванне, як іх варта назваць. З 11 варыянтаў пакуль што лідзіруюць прыватны пакой (Privat-Room), пакой для абдыманняў (Kuschel-Kammer) і антыстрэсавае купэ (Anti-Nerv-Abteil).

***Паводле СМІ.***

# Размовы з Лорэнцам[1]

## Скарочаны пераклад раздзела "У Вільні і Навагрдскай старане"

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

*- З прэсы, прычым не толькі віленскай, можна даведацца, што кансервацыйныя працы ў віленскай катэдры пад кіраўніцтвам вас і прафесара Універсітэта Стэфана Баторыя Юліюша Клоса ў верасні 1931 года прывялі да сенсацыйнага адкрыцця цалкам забытых каралеўскіх магіл [2].*

- Мабыць, спачатку працытую віленскае "Слова", каб даць сучаснаму чытачу ўзор таго, у якім стылі была апісана гэта падзея ў той час: *"У сувязі са знаходкай у Віленскай базыліцы крыпты з целамі караля Аляксандра Ягелончыка, каралевы Лізаветы Ракушанкі, каралевы Барбары Радзівілаўны і скрыні з сэрцам і вантробамі караля Уладзіслава IV у капліцы св. Казіміра, ваявода Бэчкавіч прадставіў ураду стан справы. У бліжэйшы час урад, згодна з просьбай Міністра рэлігійных веравызнанняў і грамадскай асветы, прыме пастанову, накіраваную на поўную апеку над каралеўскімі астанкамі, іх годнае захаванне і размяшчэнне. Як мы даведаліся, урад прызначыць людзей, якім будзе даручана выконваць пастанову Рады Міністраў у цесным кантакце з Грамадзянскім камітэтам выратавання Віленскай базылікі"*.

На наступны дзень "Кур'ер Віленскі" паведаміў: *"Сёння працягваліся дэталёвыя даследаванні каралеўскіх астанкаў у сутарэннях кафедральнага сабора. Даследаванне дало надзвычай цікавыя вынікі. Высветлілася, што каралеву Барбару Радзівілаўну пасля яе смерці ў Кракаве захавалі ў спецыяльным вапнавым растворы, які выкарыстоўваўся ў той час, ён павінен быў засцерагчы яе парэшткі ад гніення. Гэты раствор падвяргаўся хімічным пераўтварэнням на працягу стагоддзяў і таму ўтварыў кампактную масу вакол парэшткаў каралевы. Раствор уяўляе сабой невядомае сёння хімічнае злучэнне, якое вылівалася на фігуру памерлай, пакрытую заслонай матэрыі. Труна была драўляная, абцягнутая скурай, у ёй ляжаў крыж з залотнай тканіны. Найлепш захаваліся залотная тканіна і таблічка з гербамі Польшчы, Літвы і роду Радзівілаў. Залатыя ніці, здабытыя з труны і праз трыста гадоў пад ліхтарыкам ззяюць чыстым золатам. Пакуль знята толькі вечка труны. У ёй бачна галава каралевы з пазалочанай каронай. На шыі каралевы суцэльны залаты ланцужок. Кожная дэталь старанна вывучаецца, фатаграфуецца і хімічна аналізуецца. Гэтым займаюцца: доктар Лорэнц як гісторык мастацтва і кансерватар, праф. Райхер, анатам, а таксама праф. д-р Апачынскі, праф. хіміі Гласко, праф. Маралоўскі і іншыя. Характэрна, што такім растворам залілі толькі каралеву Барбару, для астанкаў каралевы Лізаветы выкарыстоўваліся іншыя хімікаты. Скураная абіўка, залотная тканіна і таблічка з надпісам былі перанесены на спецыяльныя падстаўкі для наступнай кансервацыі. Хутка стала вядома, што заліўка труны даўно разбілася на некалькі частак рознага памеру. Сёння частка блокаў заліўкі, якія пакрывалі галаву і верхнюю частку цела каралевы, былі выдалена, і адкрыўся каранаваны чэрап каралевы і частка шкілета з залатым ланцужком на шыі. У сем гадзін вечара пасля падняцця аднаго з фрагментаў зацвярдзелага вапнавага раствору былі часткова выяўлены невялікі скіпетр, інсыгніі і памятная таблічка, якія ляжалі на грудзях. Знойдзеныя прадметы былі пакінуты на месцы для ўважлівага вывучэння на наступны дзень".*

*- І так дзень за днём прэса паведамляла пра ўсе мерапрыемствы, якія праводзіліся падчас агляду знойдзеных магіл?*

- Так, для вільнян, як і для ўсяго грамадства, гэта было вялікім адкрыццём. Даследаванні далі гісторыкам новы матэрыял аб звычаях, звязаных з пахаваннем каралеўскай сям'і пры двары Ягелонаў.

*- Справа выратавання Віленскай базылікі звязана з яшчэ адной вельмі вядомай справай, у якой вы ледзь не сталі героем накшталт Рэйтана.*

- Разумееце, гэта таксама пытанне, якое патрабуе больш шырокай размовы. Пачаць трэба з кансервацыйных праблем, звязаных з Віленскай базылікай, якая была адным з найвялікшых помнікаў культуры. Гэта былі найважнейшыя праблемы і, адначасова, мае абавязкі як кансерватара ў Вільні. За апошнія стагоддзі гэты храм перажыў цяжкія часы. Ужо ў XVIII стагоддзі ён быў пад вялікай пагрозай знікнення. Потым пад падмурак забівалі драўляныя палі для яго ўмацавання. І так было ўвесь час. Сцены базылікі трэскаліся, іх ратавалі, змацоўвалі стальнымі шпількамі, латалі, умацоўвалі. У 1930 годзе з-за вялікай паводкі, якая ахапіла нават Кафедральную плошчу, стан базылікі зноў стаў трывожным. Як кансерватар, разам з прафесарам Юліюшам Клосам, я правёў дэталёвае даследаванне крыптаў, падмуркаў і сцен. Гэтыя даследаванні цалкам пацвердзілі занепакоенасць Мітрапалітальнай курыі і ўсяго віленскага грамадства. Для

[1] Robert Jarocki. Rozmowy z Lorentzem. Panstwowy Instytut Wydawniczy, Warszawa, 1981. S. 75-130.

[2] Гл: Лаўрэш Леанід. Знаходка пахавання вялікага князя ВКЛ і караля Аляксандра і вялікіх княгінь і каралеў Лізаветы і Барбары ў 1931 г. // Наша слова.pdf , № 28 (80), 12 ліпеня 2023. - *Л. Л.*




захавання базылікі быў створаны Грамадзянскі камітэт на чале з біскупам Міхалкевічам. Натуральна, я быў сябрам гэтай камітэта. Выдаткі на кансервацыю чакаліся вялізнымі, і было відавочна, што Мітрапалітальная курыя, падтрыманая нават зборам сродкаў ад мясцовага грамадства, не зможа пакрыць усе абавязацельствы, звязаныя з гэтай велізарнай і працяглай працай. Таму я напісаў брашуру пад назвай "Выратуем Віленскую базыліку", у якой, выклаўшы факты, звярнуўся па дапамогу не толькі да грамадства Віленскага краю, але і да ўсёй краіны. Мы зыходзілі з таго, што ніхто не можа быць абыякавым да пагрозы віленскай катэдры, як гэта было і ў выпадку з адбудовай Вавеля.

Паводка, пра якую піша ў сваіх успамінах Тадэвуш Лапалеўскі, калі небяспечны разліў ракі Віліі размыў падмуркі базылікі, зрабіла выратаванне храма галоўным імператывам моманту. Для пакрыцця кошту рэстаўрацыйных работ спатрэбіўся агулам амаль мільён злотых, а дакладней, 800 тысяч злотых. Улады архідыяцэзіі і кафедральнага сабора вырашылі прадаць за мяжу дзесяць выдатных фламандскіх габеленаў. Было вядома, што капітула Віленскага кафедральнага сабора ў другой палове XVI ст. замовіла выдатныя фламандскія габелены на біблейскія сюжэты. Невядома, ці захаваліся яны недзе, ці былі разрабаваны ці знішчаны падчас войнаў. Але габелены, якія знаходзіліся ў скарбніцы сабора, таксама мелі вялікую каштоўнасць, бо яны паходзілі пераважна з другой паловы XVII ст., таксама з фламандскіх майстэрняў і з'яўляліся здабыткамі высокай мастацкай культуры не толькі майстроў, якія іх выраблялі. Для продажу такіх помнікаў мастацтва патрабаваўся дазвол ваяводскага кансерватара. Таму Мітрапалітальная курыя ў Вільні пісьмова звярнулася да мяне з просьбай даць дазвол, аргументуючы гэта тым, што гаворка ідзе пра грошы на далейшы рамонт катэдры. Я катэгарычна выступіў супраць вывазу гэтых бясцэнных габеленаў і продажу іх за мяжой. З-за майго супраціўлення, Курыя афіцыйна звярнулася ў Міністэрства рэлігійных веравызнанняў і грамадскай асветы з просьбай умяшацца і прымусіць мяне пагадзіцца. На гэты конт са мной адбылася тэлефонная размова прадстаўніка міністэрства, у якой я патлумачыў прычыны адмовы і захаваў сваю пазіцыю. Тады віленскі мітрапаліт Ялбжыкоўскі звярнуўся наўпрост да самога прэм'ер-міністра Аляксандра Прыстара, які патэлефанаваў тагачаснаму ваяводзе Бэчкавічу, каб той загадаў мне выдаць дазвол на вываз габеленаў за мяжу. Выкліканы ваяводам Бэчкавічам, я катэгарычна адмовіўся выконваць загад прэм'ер-міністра, які супярэчыў справе аховы помнікаў мастацтва. Прэм'ер-міністр Прыстар, даведаўшыся, што я не выканаў ягонага рашэння, выдаў па тэлефоне загад неадкладна звольніць мяне з дзяржаўнай службы. Пісьмовае пацверджанне гэтага звальнення, за подпісам тагачаснага намесніка міністра рэлігійных веравызнанняў і народнай адукацыі кс. Жангаловіча, было даслана неадкладна. [...]

- У рэшце-рэшт арцыбіскуп Ялбжыкоўскі перадумаў. Уся гэтая справа пасля майго эфектнага зняцця з пасады кансерватара выклікала вялікі скандал, асабліва ў Вільні, але рэха дакацілася і да Варшавы і іншых гарадоў. Аб гэтым шмат пісалі газеты, якія, незалежна ад сваёй палітычнай арыентацыі, аб'ектыўна адмоўна ставіліся да намераў віленскай курыі. У самой Вільні супраць арцыбіскупа выступілі трыццаць тры арганізацыі, якія аб'ядналі ўсе слаі грамадства, у тым ліку навукоўцаў, пісьменнікаў, мастакоў і акцёраў. Вядомыя прадстаўнікі віленскага грамадства накіравалі прэм'ер-міністру і міністру рэлігійных веравызнанняў і народнай асветы тэлеграмы пратэсту. Па гэтай справе да арцыбіскупа і ваяводы выехалі вельмі прадстаўнічыя дэлегацыі. Натуральна, будучы адхіленым ад займанай пасады, я не мог афіцыйна гаварыць, але ж я не сядзеў склаўшы рукі. Я лічу, калі дзяржаўныя ўлады ў Варшаве ўцямілі, што скандал з габеленамі шкодзіць іх прэстыжу, яны далі зразумець, што ініцыятыва вырашэння спрэчкі павінна зыходзіць ад арцыбіскупа Ялбжыкоўскага. Дык вось, па парадзе добразычлівых людзей, арцыбіскуп, хоць ён, як і я, быў вельмі ўпарты, пайшоў на кампраміс і абвясціў, што не будзе карыстацца дазволам на вываз габеленаў за мяжу. У сувязі з маёй адстаўкай, такі дазвол быў дадзены міністрам рэлігійных веравызнанняў і народнай адукацыі. Такім чынам габелены засталіся ў Вільні, а грошы на рэканструкцыю катэдры мы атрымалі з грамадскіх ахвяраванняў. Акрамя таго, з улікам неабходных 800 000 злотых, сума ў 70 000 злотых, прапанаваная замежным гандляром за габелены, не мела б вялікага значэння.

*- Я так разумею, што ў гэтай сітуацыі вы вярнуліся ў свой кабінет.*

- Так сталася. Ваявода Бэчкавіч, які ў глыбіні душы заўсёды мне спачуваў, адразу папрасіў аднавіць мяне на пасадзе.

*- Скажыце, калі ласка, ці камерцыйнае стаўленне да помнікаў мастацтва, якое ў дадзеным выпадку праяўляў арцыбіскуп Ялбжыкоўскі, было ўвогуле характэрным для тагачаснай касцельнай іерархіі ў Польшчы?*

- Не хацеў бы абагульняць. Безумоўна, узровень гуманістычнай адукацыі і разуменне мастацтва сучаснымі біскупамі, незалежна ад іх сацыяльнага паходжання, сёння значна вышэй, чым у тыя часы, чым узровень, які ў цэлым (з некаторымі але прыкметнымі выключэннямі) мела духавенства з пакалення, выхаванага і высвечанага задоўга да Першай сусветнай вайны. І арцыбіскуп Ялбжыкоўскі належаў да гэтага пакалення. Больш за тое, ён быў строгім чалавекам сціплага паходжання, без схільнасцяў да культуры, так распаўсюджаных сярод сённяшніх польскіх біскупаў. Але ён быў вельмі энергічным і гнуткім кіраўніком сваёй дыяцэзіі, карыстаўся неверагоднай павагай і нават унушаў страх парафіяльным святарам, якія любілі добра пажыць. Я, дзякуючы маім абавязкам, ведаў многіх з іх на Віленшчыне і Навагрудчыне. Памятаю, як аднойчы завітаў па важнай справе да свайго сябра, пробашча з Браслаўскага павета. Гэты ксёндз быў там нават дэканам. Я знайшоў яго псіхічна зламаным, сумным







***Прафесары Булгак, Кяршкоўскі і Лорэнц у атачэнні іншых асоб у Друі***

і напалоханым. Пытаюся:

- *Ксёндз хворы?*

- *Горш, чым хворы. Вялікая бяда напаткала мяне, пан кансерватар!*

І пачаў расказваць, што нядаўна ў яго парафіі быў штогадовы адпуст, самае вялікае свята ва ўсёй мясцовасці. Як звычайна, з гэтай нагоды сабралася шмат святароў, і адбыліся адпаведныя набажэнствы. Прыехаў таксама арцыбіскуп Ялбжыкоўскі. Потым адбылася вельмі сціплая трапеза, як і любіў арцыбіскуп. Натуральна, без кроплі алкаголю, бо Яго Эксцэленцыя быў супраць таго, каб святары ўжывалі алкаголь. Адпуст дасканала атрымаўся, і арцыбіскуп пахваліў пробашча - гаспадара ўрачыстасці, пасля чаго сышоў.

- *Мы чакалі,* - сказаў святар,- *як звычайна, каля паўгадзіны, а потым селі за папярэдне падрыхтаваны і добра прыгатаваны, адмысловы абед з напоямі і лікёрамі, як і заўсёды пры такой прыемнай нагодзе. Ямо, п'ём, весялімся, і раптам дзверы адчыняюцца, і я чую голас арцы-біскупа Ялбжыкоўскага:*

- *Слава Езусу Хрыстусу! А што гэта за свята такое?* - *пытаецца ён, паказваючы на накрыты стол.*

- *І мы атрымалі, як мы атрымалі! Але на гэтым справа не скончылася. Некаторых святароў раззлаваны арцыбіскуп адразу перавёў у горшыя парафіі. І мяне гэта абавязкова чакае, пан кансерватар!* - *уздыхнуў браслаўскі пробашч, жаласна гледзячы на мяне.*

- *Гэта нас Бог так пакараў нас за нашу слабасць да ежы і наліўкі!*

Браслаўскаму пробашчу было што страчваць, бо парафія належала да больш заможных, а арцыпастыр быў бязлітасны. Да таго ж ён меў дэспатычны нораў. У Вільні ў кавярнях расказвалі анекдот, што аднойчы ён наняў у свой палац новага дварэцкага і новую эканомку, людзей зусім незнаёмых. Каб у далейшым не было скандалу, ён адразу загадаў новым супрацоўнікам:

- *Вам трэба ажаніцца, і хутка! [...]*

- *Яшчэ пра адно хачу спытаць. У той час, як я памятаю з кніг, калі вы працавалі ў Вільні, сярод студэнтаў універсітэта імя Стэфана Баторыя сфармавалася цікавая група левых інтэлектуалаў. Гэтую групу ўзна-чальваў Генрык Дэмбіньскі, адзін з найбольш цікавых дзеячаў маладога міжваеннага пакалення. Сярод іх быў Стэфан Ендрыхоўскі. У гэтую групу ўваходзілі, між іншым: Казімір Петрусевіч, Ежы Штахельскі, Ежы Путрамант, Моніка Жэромская, а таксама пазнейшыя жонкі Дэмбіньскага Зофія і Ендрыхоўскага Ганна. Ці ведаеце вы гэтую групу, якая стала вядомая ўжо пасля вашага вяртання ў Варшаву з-за судоў, якія ішлі з 1936 гада і называліся працэсамі над групай "Па-просту" (па назве часопіса, які рэдагавалі ў той час гэтыя маладыя, "гнеўныя" людзі). Путрамант выдаў, ужо ў Польскай Народнай Рэспубліцы, раман пад назвай "Рэчаіснасць" (Rzeczywistosc), у якім ён прадставіў літаратурную версію гісторыі гэтай групы. Цікава, ці сутыкаліся вы з віленскімі левымі?*

- Так, я ведаў пра існаванне гэтай цікавай універсітэцкай моладзі. Трошкі ведаў і Генрыка Дэмбіньскага, які быў чалавекам вялікіх маральных і інтэлектуальных каштоўнасцяў, са спецыфічнымі сацыяльнымі інтарэсамі. Не памятаю, ці ведаў я тады і Стэфана Ендрыхоўскага. Аднак памятаю, што ва ўніверсітэцкіх колах яго лічылі выключна таленавітым маладым навукоўцам. Я запомніў Ежы Путраманта з літаратурнага вечара ў Саюзе пісьменнікаў, у так званай "Келлі Конрада" [3]. На той час яму, напэўна, яшчэ і дваццаці гадоў не было. Ён быў вельмі вялікі, нязграбны і страшэнна гучны. Больш цесных кантактаў паміж намі быць не магло з-за розніцы пакаленняў. У Вільні існавала тры літаратурна-мастацкія пакаленні: старэйшае, "бацькам" якога быў Фердынанд Рушчыц, сярэдняе, да якога належалі мы з Гулевічам, і, нарэшце, зусім маладое, пачынаючае - Дэмбіньскі і Ендрыхоўскі - яшчэ студэнты, я маю на ўвазе першыя 1930-я гады, калі мы з Вітольдам Гулевічам былі ўжо людзьмі "пры пасадзе", са сваімі сем'ямі і г. д. Што да судовага працэсу, які адбыўся пасля майго ад'езду з Вільні і на якім, здаецца, галоўнымі абвінавачанымі былі Генрык Дэмбіньскі і Стэфан Ендрыхоўскі (я мяркую, што яны ўжо былі выпускнікамі ўніверсітэта), дык ва ўсёй Вільні, акрамя крайне правых, была выразная атмасфера салідарнасці. Ванда Пэлчынская, якая выехала ў Варшаву, напісала артыкул у іх абарону ў "Газеце Польскай" якая была

[3] Пра г. з. "келлю Конрада", гл: Талочка Ул. Праўда пра келлю Конрада; Луцкевіч Антон. З нагоды спрэчкі пра 'Келлю Конрада' // Наша Слова. № 48 (1563), 2 снежня 2021.




пілсудска-санацыйнай газетай. Увесь гэты працэс мы разглядалі як дурную інтрыгу з боку асяродкаў, якія рухаліся да таталітарнай і шавіністычнай канцэпцыі. Увесь судовы працэс прынёс ганьбу завадатарам арышту кіраўнікоў групоўкі "Па-просту", а героі працэсу выклікалі спачуванне адукаванай грамадскай думкі. Аднак, уся гэтая справа сведчыць пра магчымасць супрацьстаяць злоўжыванням ўлады ў тагачаснай дзяржаве. Бо групу Дэмбіньскага і Ендрыхоўскага абаранялі людзі, якія не заўсёды падзялялі іх палітычныя погляды. Аднойчы я праглядаў цікавую кнігу ўспамінаў Ганны Ендрыхоўскай і запомніў вялікую прамову адной з адвакатак на гэтым працэсе, надрукаваную ў свой час у "Кур'еры Віленскім". Яна, між іншым, сказала: *"Віленская акадэмічная супольнасць аб'ядноўвае некалькі тысяч маладых людзей у сценах універсітэта імя Стэфана Баторыя. На гэтую моладзь мусяць уплываць розныя плыні. Акадэмічнае асяроддзе павінна падвяргацца ваганням і зменам, як і любое жыццёвае асяроддзе. Гэты пастаянны рух, змены і развіццё з'яўляюцца не толькі незаменнай, але і пазітыўнай рысай. Калі б акадэмічная моладзь заставалася нерухомай, калі б у яе асяроддзі не нараджаліся і не развіваліся розныя ідэйныя плыні, дык замест творчых каштоўнасцяў ад сцен універсітэта веяла б мёртвым холадам, а моладзевае асяроддзе можна было б параўнаць са стаячай вадой, якая ня мае пратокаў і, дзякуючы знешняму ціску, не знаходзіцца ў стане пастаяннага руху і таму зарастае пустазеллем - замест таго, каб быць крыніцай жыцця, становіцца агменем гніення".*

Я не думаю, што я перабольшваю, калі кажу што такі падыход да справы адлюстроўваў і мае тагачасныя думкі пра гэтую левую моладзь, ідэйныя погляды якой я не зусім падзяляў. Мы выказвалі салідарнасць, напрыклад, з Генрыкам Дэмбіньскім (маю на ўвазе не толькі сябе, але і маіх сяброў), калі ён выступаў за прыязную і разумную палітыку ў адносінах да нацыянальных меншасцяў, калі асуджаў антысемітызм і палітыку дыскрымінацыі людзей, якія думаюць інакш, чым уладныя прапагандысты.

Аднак яго вокліч на з'ездзе ў Львове: "Жыве чырвоны Львоў!" нам спадабаўся менш.

*- Разумею. Са згаданай вамі кнігі Ганны Ендрыхоўскай я даведаўся, што некалі заўзяты пілсудчык Анджэй Струг даў інтэрв'ю прадстаўніцы суполкі "Па-просту" Моніцы Жэромскай і гаварыў пра польскі фашызм, які хацеў бы паказаць свае зубы.*

- На шчасце, гэтага не адбылося. На маю думку, словы Струга мелі сэнс перасцярогі, былі ўсведамленнем пагрозы таталітарнай улады ў Польшчы. Такім чынам ён хацеў прадухіліць фашысцкія тэндэнцыі ў нашай краіне. Памятайце, што нягледзячы на існаванне цэнзуры, выказванні, якія называлі рэчы сваімі імёнамі, маглі быць апублікаваныя. Здаровыя колы грамадскай думкі ўсё ж маглі выказаць свой супраціў. А гэтага не магло б быць магчымым у таталітарнай дзяржаве.

***Пераклад і каментаванне Леаніда Лаўрэша.***

# Выйшла паштоўка, прысвечаная Кузьме Чорнаму

З друку выйшла арыгінальная паштоўка, прысвечаная беларускаму празаіку, публіцысту і драматургу Кузьме Чорнаму (1900-1944). Яе падрыхтаваў і выдаў пісьменнік, гісторык і краязнавец Сяргей Чыгрын.




На паштоўцы адлюстраваны малады Кузьма Чорны. А таксама тэкст з адваротнага боку, дзе паведамляецца, што пісьменнік з'яўляецца пачынальнікам беларускай філасофскай і псіхалагічнай прозы, які заўсёды стаяў на баку маральнасці і чалавечнасці, закранаў праблемы выхавання, паводзінаў людзей у цяжкі час войнаў і рэпрэсій.

Дарэчы, гэта не першая паштоўка, прысвечаная беларускім літаратарам. Раней Сяргей Чыгрын выдаў паштоўкі з выявамі Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Аляксея Карпюка, Вацлава Ластоўскага, Масея Сяднёва, Валянціна Таўлая і іншых асобаў.

***Пётр Мікалаеў.***





# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## *Хорар у мастацтве і ў жыцці: Выгодскі, Грэцкі, Макінаў*

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 (2022); 1-52 (53-104) (2023); 1-16 (105-120) за 2024 г.)*

**ВЫГОДСКІ Давід** - у матэрыяле "Из архива Давида Выгодского" (пераклад, каментарыі і публікацыя Б. Лукіна) з часопіса "Латинская Америка" (1983, № 2, 4), ксеракопію якога нам даслалі з Інстытута Лацінскай Амерыкі РАН, указана, што ён сустракаўся перуанцам Сэсарам Вальеха, мексіканцам Хасэ Мансісідорам, уругвайцам і аргенцінцам Эліясам Кастэльнуова.

Мансісідор (прыязджаў у СССР двойчы - у 1936 і 1947 гг.) на фота выглядае як чалавек, які мог мець індзейскіх продкаў. Знешнасць Вальеха таксама крыху "двухсэнсоўная"; крыніцы паўсюль сцвярджаюць, што ён метыс.

Сэсар Вальеха нарадзіўся ў перуанскіх Андах, у Сант'яга-дэ-Чука [Santiago de Chuco], дэпартамент Ла-Лібертад, у *"беднай шматдзетнай сям'і індзейска-іспанскага (галісійскага) паходжання"*. У яго параўнальна кароткім жыцці было шмат непрыемнага, але і шмат стваральнага. Нягледзячы на левыя погляды, уступленне ў пэўны момант у кампартыю, яго шануюць, памятаюць і перавыдаюць ва ўсім свеце. Аптымізм і перакананасць яго значна паменшыліся б, калі б ён даведаўся пра гісторыю святара Мікалая Грынкевіча, якога прыгаварылі да смерці паміж яго другім і трэцім прыездам у СССР, і калі б да яго да ўласнай смерці 15.04.1938 г. нейкім чынам паспела дайсці вестка, што яго знаёмы і папулярызатар Давід Выгодскі 14.02.1938 г. быў арыштаваны (пасля вяртання дадому з пісьменніцкага сходу). І калі б ужо на "тым", "ілюзорным" свеце якая-небудзь англійская газета не даставіла яму навіну, што, крыху не дачакаўшыся канца 5-гадовага тэрміну, Давід памёр у лагеры (1943).

Ён наведаў СССР у 1928, 1929 і 1931 гг. (гэта яму было зрабіць рэальна таму, што ён яшчэ ў 1923 г. пераехаў у Еўропу). Выязджаў першы раз 19.10.1928 г., накіроўваючыся ў Маскву, г.зн. мог ехаць праз БССР, праз Негарэлае. У лістападзе вярнуўся ў Парыж. Другі раз ехаў у верасні 1929 г. і наведаў не толькі Маскву, але і Ленінград. У кастрычніку 1931 г. ён паехаў у СССР у трэці раз.

Падарожныя нататкі, лісты, рэпартажы, цэлыя кнігі адлюстравалі гэтыя паездкі: "Расія, 1931. Разважанні ля сцен Крамля" і "Расія перад другім пяцігадовым планам"; яны адбіліся ў зборніку эсэ "Мастацтва і рэвалюцыя", у "сацрэалістычным" рамане "Вальфрам", п'есе "Паміж двух берагоў цячэ рака" (першапачатковая назва "Масква супраць Масквы") і інш.

"Вальфрам" - гэта пра рабочых-індзейцаў. У першым зборніку вершаў "Чорныя геральды" (1918) *"элементы паэтыкі лацінаамерыканскага мадэрнізму арганічна спалучаны з протаавангардысцкімі тэндэнцыямі і індзейскім фальклорам"*.



"Латинская Америка" Публикации
1983, № 2

«Неизвестный»

ник создал экспрессивные, полные напряженности образы, тем самым обнажив бесчеловечность существующего в Чили порядка, где царят насилие и смерть...

Латинская Америка прочно вошла в творческую жизнь художника. Сейчас в разгаре работа Чалтыкьяна над серией графических листов и живописных полотен, посвященных Симону Боливару. На них Освободитель предстанет не только как великий полководец, но и как человек, умудренный жизнью, борьбой и поражениями. Один из живописных портретов уже готов. В нем поражает переданная красками влюбленность художника в незаурядность этого человека. Такой Боливар пленяет одухотворенностью, таящейся в его лице.

Чалтыкьян замыслил также создать серию картин о деятелях латиноамериканской культуры XIX—XX вв., отдавших жизнь за независимость и свободу своего континента.

И. К. ШАТУНОВСКАЯ

118

Из архива Давида Выгодского

Давид Исаакович Выгодский был в Советском Союзе одним из первых, кто глубоко изучал и популяризировал современную поэзию и прозу Латинской Америки. Он внес заметный вклад в установление культурных связей между СССР и латиноамериканскими государствами. Вместе с К. Н. Державиным, Ф. В. Кельиным и другими филологами-испанистами Выгодский закладывал основы советской латиноамериканистики. Он встречался с Сесаром Вальехо, Хосе Мансисидором, Элиасом Кастельнуово, мечтал о научных путешествиях по Мексике. Но и работая среди книг в своем кабинете на Моховой улице в Ленинграде, он сделал больше, чем некоторые ученые, объездившие Южную Америку. Это был «поэт, переводчик, критик, замечательный знаток иностранных языков, романтически влюбленный в революцию и в революционную литературу»,— писал Михаил Слонимский [1]. Взяв на себя роль литературного посредника в отношениях между СССР и Латинской Америкой, Д. И. Выгодский был в 30-е годы широко известен в латиноамериканских странах.

Родился Д. И. Выгодский 5 октября 1893 г. в семье гомельского конторского служащего. Учение в гимназии и университете не дало многого. «Больше дали книги. Еще больше — уединение. Больше всего — люди. Не великие, а маленькие, обыкновенные [...],— писал он.— Память о людях [...] — единственное богатство, которое я коплю» [2].

О своем раннем творчестве Выгодский отзывался так: «Писал я много: стихи, статьи, ученые исследования, фельетоны, рецензии [...]. Писать начал в 1903-ьем году. Печататься — в 1911. Много писал мелочи, переводил, сперва чтоб «печататься», потом — и до сих пор — из нужды» [3]. Он был скромен, держался просто, нередко появлялся в рубахе без пиджака и босиком, называя себя «толстовцем».

Его работоспособность была удивительной. В 18 лет он не только печатал статьи о литературе, но и основал журнал «Зарница». В одном из писем той поры Выгодский говорил о своей приверженности идеалам де-

[1] М. Слонимский. Книга воспоминаний. М.—Л., 1966, с. 194.
[2] Рукописный отдел ИРЛИ, р. 1, оп. 4, № 71, л. 2.
[3] Там же.

119

***Photocopy from the Institute of Latin America (RAS). Article "From David Vygodsky's archive". Маргіналіі: указанне на выданне, з якога зроблена ксеракопія: "Латинская Америка", 1983, № 2, с. 118-119 ("Из архива Давида Выгодского")***

Беларускі пераклад дзясяткаў яго вершаў зрабіў Р. Барадулін, рэдактар перакладу - К. Шэрман. Яны змешаныя ў зборніках "Чорныя геральды" (1993, серыя "Паэзія народаў свету") і "Выбраныя творы" (2018, "Паэты планеты"). Асобныя яго вершы з'явіліся, у прыватнасці, у часопісе "Беларусь" (1976, № 2, с. 8: "Прывітанне прадвесніку") і ў "Нашым слове" (1996, 5-11 снеж., с. 8: "Дождж", "Прыцемак", "***Гнеў дзеліць чалавека на чародкі..").

У нашай бібліятэцы маем: *Сесар Вальехо: биобиблиографический указатель / сост. В. Гинько. М.: Книга, 1986.* Прозвішча Гінько, як у гэтай супрацоўніцы Усесаюзнай дзяржаўная бібліятэка замежнай літаратуры (ВГБИЛ), даволі беларускае. У 2019 г., як пацвярджэнне ўжо замацаванай значнай спецыялізацыі





Уважаемый Александр Васильевич!

Я пыталась по телефону объяснить Вам, чем вызвана была задержка моего ответа на Ваше письмо. Не знаю, удалось ли мне это толково сделать.

В 1989 году я дважды была в Гомеле - в апреле и в сентябре / в связи с подготовкой и проведением конференции, посвященной памяти моего отца./. Очень жаль, что мы не встретились и не познакомились лично. Я знаю, что имя отца помнят и чтут в Гомеле. У меня есть письменное и устное заверение Секретаря Городского комитета партии В.М.Лисовской о том, что есть намерение присвоить его имя одной из улиц города, а на доме, в котором он прожил бо́льшую часть своей жизни, установить мемориальную доску.

Теперь о Давиде Исааковиче. Я его, конечно, очень хорошо помню, так как любила его и знала с самого детства. Он всегда был очень добр ко мне, а это не забывается.

Он был немного старше моего отца, но с самого детства их связывала дружба, которую они пронесли через всю жизнь. Отец Давида Исааковича рано умер, и мой дед фактически содержал вдову своего брата и заботился о ее трех детях. Одно время /правда, очень непродолжительно/ они даже жили вместе. Живя поблизости /их дома разделял бульвар/, обе семьи очень тесно /ежедневно/ общались./Семья моего отца жила в доме, где сейчас находится управление Областной филармонии, а семья Давида Исааковича жила на Бульварной улице/.

Давид Исаакович закончил казенную гимназию /а мой отец - частную/. Всю жизнь после Гомеля он прожил в Ленинграде.

К сожалению, я недостаточно знаю о Давиде Исааковиче сама. До сих пор не могу примириться с тем, что его единственное письмо ко мне из лагеря, пропало.

*Letter from Gita Vygodskaya s.d. postmark 1990-04-23 p. 1 of 3*

бібліятэкі на літаратурах і мовах іспана- і партугаламоўных краін, у ёй быў адкрыты Ібера-амерыканскі культурны цэнтр.

24.02.1990 г. мы пісалі ў Маскву дачцэ стрыечнага брата Давіда Выгодскага Льва Г. Л. Выгодскай:

*"Паважаная Гіта Львоўна!*

*У. В. Мальцаў, вучоны з Менска, паведаміў мне Ваш адрас.*

*Вы, відавочна, ведаеце, што ў Гомелі памятаюць пра Вашага бацьку, ганарацца яго працай у нашым горадзе, праводзяць мерапрыемствы, прысвечаныя яго навуковай спадчыне.*

*Менш вядомы (баюся, можна сказаць, што невядомы наогул), іншы гамяльчанін - Д. І. Выгодскі. Ён вельмі цікавіць мяне як амерыканіста - вывучаю сувязі Беларусі з Амерыкай, асабліва з Індзейскай. У свой час на мяне моцнае ўражанне зрабіла інфармацыі пра Іспанаамерыканскае таварыства і яго стваральнікаў, сярод якіх быў Д. І. Выгодскі.*

*Быў бы Вам надзвычай удзячны за некаторыя звесткі пра Д. І. Выгодскага, ад якіх можна было б "адштурхнуцца" ў пачатку вывучэння яго жыцця і дзейнасці (не прэтэндую на вялікую працу, але артыкулы для мясцовай і рэспубліканскай прэсы падрыхтую):*

\- 2 -

Я сообщаю Вам те немногие источники, в которых Вы можете почерпнуть кое-какие сведения о нем. В одном из этих источников имеются и даты его жизни - 5/Х-1893 г. - 27/УП-1343 г. За точность последней даты поручиться нельзя, так как умер он в лагере, будучи репрессированным. Насколько мне известно /но это требует тщательной проверки/, арестован он был после ареста Михаила Кольцова /может быть, даже по одному делу?/

Итак, источники, в которых Вы найдете данные о Давиде Исааковиче:

1. Журнал "Латинская Америка", 1983, №№ 2,4.
2. Журнал "Латинская Америка", 1977, № 5.
3. Слонимский. "Книга воспоминаний", М., 1966.
4. М Шагинян. "Страница прошлого". В журнале "Современник", № 6, 1964 г. /Вся статья целиком о нем/.
5. В Каверин, "Эпилог". /Журнальный вариант опубликован в журнале "Нева", №8, 1989 г./
6. В статье Роя Медведева "О Сталине и сталинизме". Журнал "Знамя", №4, №, 1989 г.
7. В статье Озерова к юбилею Н.Заболоцкого в журнале "Огонек" /кажется 1988 г./
8. Воспоминания Заболоцкого "История моего заключения". Журнал "Даугава", №3, 1988 г. /Этих воспоминаний я не читала, так как не могу достать этот номер. Однако мне сказали, что в этих воспоминаниях есть о Давиде Исааковиче, так как они сидели в одной камере/.

Вот и все, что мне известно о печатных материалах.

К сожалению, в семье, кроме меня, уже не осталось никого, кто бы знал его.

*Письмо от Г. Л. Выгодской 1990-04-23 (по штемп., б.д., дата получ. 1990-04-28) p. 2 of 3*

*апублікаваныя біяграфічныя звесткі, дакладныя даты і месцы нараджэння і смерці;*

*сям'я, сваякі, якія цяпер жывуць, калі магчыма - і адрасы;*

*кампетэнтныя і зацікаўленыя ў вывучэнні біяграфіі асобы;*

*усё, што Вы знойдзеце патрэбным паведаміць аб яго дзейнасці (у тым ліку як лацінаамерыканіста і перакладчыка).*

*[…]*

*Загадзя - […] сардэчная падзяка".*

**Літ.:**

*3076 Вальеха С. Чорныя геральды: выбраная лірыка / пер. з ісп. Р. Барадуліна; уклад., прадм. і камент. К. Шэрмана. Мн., 1993.*

*11250 Вальеха С. Выбраныя творы / пер. з ісп. Р. Барадуліна. Мн., 2018.*

*3503 Міхееў К. М. Вальеха (Vallejo) Сэсар // Беларуская энцыклапедыя: у 18 т. Т. 3. 1996. С. 492.*

*3298 Шэрман К. Загадкавы Вальеха // Шэрман К.*

